

ОРГАН БЕЛАРУСКАИ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

WHITERUTHENIAN NEWSPAPER "BACKAUSCYNA" ("FATHERLAND")

Responsible Publisher: Wladimir BORTNIK

Druck: „LOGOS", Buchdruckerei u. Verlag, G.m.b.H.
München 8, Rosenheimerstr. 46 a.

Post Adress: "Backauscyna", München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III
Die Administration der Weißruthenischen Zeitung „BACKAUSCYNA"
München 22, Herzog-Rudolf-Straße 49/III

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND" | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND" | LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE"

№ 49 (128) — Нядзеля 7 сьнежаня 1952 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 6


# Масква баіцца «буржуазнага нацыяналізму»

**НА ПАДСТАВЕ МАТАРЫЯЛАЎ XX ЗЬЕЗДУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ БЕЛАРУСІ**

Чаго найбольш баіцца расейскі бальшавізм на Беларусі і з чым вядзе найбольш бязьлітаснае змаганьне, дык гэта з праявамі беларускага нацыяналізму, які, ад пачатку паходу расейскага шавінізму супраць беларускага нацыянальнага руху ў БССР, г. зн. ад 1929—30 гадоў, насіў у афіцыяльным савецкім лексыконе розныя назвы: «нацыянал-дэмакратызму» або «наццэмаўшчыны», «нацыянал-фашызму», «нацыянальнай абмежаванасьці», «нацыяналістычных ухілаў» і, напасьледак, найбольш сьвежы й сяньня актуальны тэрмін «буржуазнага нацыяналізму». І як ня вынішчаўся гэты нацыяналізм, якія жорсткія ня прыймаліся меры дзеля ягонага выкараненьня з душы беларускага народу, сколькі не расстрэльвалася, арыштоўвалася й высылалася ў канцэнтрацыйныя лягеры прымусовай нявольніцкай працы беларускіх дзяржаўных дзеячоў, навукоўцаў, пісьменьнікаў, працаўнікоў культуры й наагул інтэлігенцыі, гэты нацыяналізм усё-ж такі жыве і, будучы затоеным у душы беларускага народу, час ад часу спантанічна прарываецца на паверхню, як неадлучны элемэнт народнае сьведамасьці.

І ў гэтым нічога дзіўнага. Нацыянальная ідэя, якая ў працэсе беларускага нацыянальнага адраджэньня яшчэ перад першай сусьветнай вайной глыбака пранікла ў народныя масы, дасьпела й замацавалася ў працэсе нацыянальна-вызвольнага змаганьня ў канчатковай фазе першай сусьветнай вайны і ў першым дзесятку год пасьля ейнага заканчэньня, сталася галоўным, творчым і будуючым зьместам жыцьця, думак і імкненьняў беларускага народу. Прымусіць народ вырачыся свайго нацыянальнага зьместу абазначае прымусіць вырачыся самога сябе. Прымусіць яго ненавідзіць усяго свайго найдаражэйшага, роднага, беларускага, абазначае прымусіць ненавідзіць самога сябе.

Адным з найбольш пашыраных бальшавіцкіх лёзунгаў зьяўляецца самахвальскі лёзунг наступны: «Няма такіх крэпасьцяў, якіх ня бралі-б бальшавікі». І гэты лёзунг у бальшыні выпадкаў адказвае запраўднасьці, бо пры помачы фізычнай сілы дзяржаўнага апарату, пры помачы безагляднага крывавага тэрору МГВ вельмі лёгка можна ўзяць усякую «крэпасьць» у нутраным жыцьці Савецкага Саюзу. Але толькі ня «крэпасьць» нацыянальную. Беларуская нацыянальная ідэя, любоў да ўсяго свайго роднага, імкненьне да выяўленьня свайго нацыянальнага «я», адпор супраць прымусова насаджванай русыфікацыі й прытоены бунт супраць антыбеларускага курсу камуністычнай партыі й дзяржаўнага апарату зьяўляюцца, хоць пасыўнымі, але ў сваей патэнцыі на столькі сільнымі сярод беларускага народу, што бальшавікі пры кажнай магчымасьці й нагодзе не на жарты б'юць трывогу й заклікаюць да бязьлітаснага змаганьня з «буржуазным нацыяналізмам», ставячы гэта, як адно зь першых і найважнейшых заданьняў камуністычнае партыі.

XX-ы зьезд камуністычнай партыі Беларусі, які, як мы ўжо пісалі, выявіў руінны стан беларускай прамысловасьці й сельскай калгаснай гаспадаркі, даў нам ня мала матарыялаў і фактаў аб тым, што варожая й чужая беларускаму народу камуністычная ідэялёгія сярод яго ніяк ня прывіваецца, а калі й прывіваецца, дык толькі павярхоўна, што ёсьць многа ідэялягічных адхіленьняў ад генэральнай лініі, што і далей, як і перад гэтым, разьвіваецца беларускі «буржуазны нацыяналізм», што беларускі народ псыхалягічна яшчэ не перарадзіўся і ўспрыймае ўсякія камуністычныя экспэрымэнты й «дасягненьні», як зьявішчы для яго чужыя, у найлепшым выпадку абыякавыя.

І гэта ўсё ў той час і пры тых абставінах, калі камуністычная партыя, не гаворачы ўжо аб ворганах МГБ, прадпрыймае грандыёзныя меры дзеля ідэялягічнага перавыхаваньня масаў. Апрача ўсей савецкай літаратуры, прэсы, кіно і радыя, якія ў цэласьці пастаўленыя на службу камуністычнага выхаваньня масаў, як падаў у сваім справаздачным дакладзе на зьезьдзе сакратар цэнтральнага камітэту камуністычнай партыі Беларусі Н. Патолічаў, у 1951—52 навучальным годзе ў «партыйнай арганізацыі рэспублікі працавала: 14 вячэрніх унівэрсытэтаў марксызму-ленінізму, 273 вячэрнія партыйныя школы, 53 гурткі па вывучэньню дыялектычнага і гістарычнага матарыялізму, 33 гурткі па вывучэньню палітычнай эканоміі, 6.182 гурткі па вывучэньню гісторыі ВКП(б), 2.398 палітшколаў і 1.566 гуртkоў па вывучэньню біяграфіяў Леніна й Сталіна». Адтуль-жа даведваемся, што «рознымі формамі партыйнай вучобы ахоплена больш 30.000 камсамольцаў і 69.000 беспартыйных». Далей Патолічаў інфармуе, што за 1951—52 навучальны год было прачытана 30.892 прапагандова-палітычных лекцыяў. Дзеля замацаваньня камуністычных уплываў на ўсей тэрыторыі БССР, у кажным горадзе, мястэчку й навет вёсцы стала працуе цэлая армія прафэсыянальных агітатараў. Вось іхная колькасьць у Беларусі: «Да правядзеньня агітацыйна-масавай работы прыцягнута больш 170 тысячаў агітатараў. Агітатарамі працуюць 60.515 камуністых, 54 тысячы камсамольцаў і больш 55 тысячаў беспартыйных». Дзеля разгарненьня «прапаганды марксыстоўска-ленінскай тэорыі, узмацненьня камуністычнага выхаваньня працоўных» зьявіўся выпуск на беларускай мове 4-га выданьня твораў Леніна і трынаццаць томаў твораў Сталіна. Якое вялікае значэньне прыдаецца прапагандова-агітацыйнай літаратуры, сьветчыць наступны факт: «За апошнія два гады Дзяржвыдавецтва БССР выпусьціла 83 назвы твораў Маркса, Энгельса, Леніна й Сталіна тыражом у 1 мільён 370 тысячаў эгзэмпляраў» (усе цытаты із «Зьвязды» за 22. 9. 52). І гэта ўсё для рэспублікі з насельніцтвам у 10 мільёнаў чалавек!

Ня глядзячы на ўсе гэтыя мерапрыемствы, на густую сетку палітычна-прапагандовых школаў і курсаў, на вялізарную армію вышкаленых агітатараў ды на мільённыя тыражы палітычнай літаратуры, ідэялягічная праца камуністых усё-ж такі ня клеіцца й вынікі ейныя жалюгодныя.

Перадусім нездавальняюча праводзіць ідэялягічную работу і астаецца далёка з заду ад савецкіх вымаганьняў Акадэмія Навук БССР, установа, якая мае за заданьне быць вядучым дзейнікам у працэсе камуністычнага выхаваньня. Патолічаў змушаны быў заявіць: «У радзе навуковых установаў ня зроблена ўсіх неабходных вывадаў з указаньняў і мерапрыемстваў, праводжаных партыяй па ўздыму ідэялягічнай работы і ўзмацненьню змаганьня супраць праяўленьняў буржуазнай ідэялёгіі. Праверка паказала, што Інстытут біялёгіі Акадэміі навук БССР доўгі час стаяў у баку ад актуальных пытаньняў савецкай біялягічнай навукі ... У Інстытуце філязофіі навукова-дасьледчая работа праводзілася на нізкім ідэйна-тэарэтычным узроўні. Акадэмія навук выдала рад работ, якія маюць сур'ёзныя тэарэтычныя й палітычныя памылкі» («Зьвязда» за 22. 9. 52). Ня лепей стаіць справа й зь беларускай савецкай літаратурай. Гэтак старшыня Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР П. Броўка ў сваім дакладзе заявіў: «Але трэба сяньня па шчыраму сказаць, што беларускія пісьменьнікі яшчэ поўнасьцю ня выканалі гістарычных рашэньняў ЦК ВКП(б) па ідэялягічных пытаньнях у літаратуры і не стварылі такіх твораў, у якіх-бы з поўнай глыбінёй адлюстроўваліся працоўныя подзьвігі рабочай клясы, калгаснага сялянства, савецкай інтэлігенцыі». («Зьвязда» за 25. 9. 52).

У вагульным адхіленьні ад ідэялягічнай лініі мамэнтам найважнейшым, а для расейскага бальшавізму найбольш небясьпечным, зьяўляецца ўспомнены ўжо беларускі «буржуазны нацыяналізм», як сяньня афіцыйна называюцца ўсякія праявы беларускага патрыятызму й абароны перад абнаглелай прымусовай русыфікацыяй. Аб гэтай нацыянальнай «гэрэзіі» бальшавікі стараюцца не гаварыць адкрыта, баючыся ейнай запладняючай сілы, яны ўважаюць за больш мэтазгоднае гэтае зьявішча прамаўчаць і змагацца зь ім найбольш бязьлітаснымі спосабамі, але цішком. Але беларускі нацыянальны рух зьяўляецца, як відаць, на столькі сільным і масавым, што Патолічаў, як і некаторыя іншыя прамоўцы на зьезьдзе, а ў першую чаргу ўспомнены ўжо старшыня Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР П. Броўка, уважалі аднак за патрэбнае прысьвяціць яму зусім не апошняе месца.

Гэтак Патолічаў у сваім справаздачным дакладзе змушаны быў сьцьвердзіць наяўнасьць беларускага «буржуазнага нацыяналізму», калі гаварыў: «ЦК ВКП(б) ускрыў таксама сур'ёзныя недахопы ў кіраўніцтве ЦК КП(б)Б абкомамі й сельскімі райкомамі партыі ў пастаноўцы арганізацыйна-партыйнай і палітычнай работы, у дзейнасьці партарганізацыяў заходніх акругаў, многія зь якіх нездавальняюча арганізавалі работу па ўцягненьню сялян у калгасы і не вялі рашучага змаганьня з кулакамі і буржуазнымі нацыяналістымі» («Зьвязда» за 21. 9. 52). Гэты «буржуазны нацыяналізм», як вынікае із словаў Патолічава, асабліва ярка выяўляецца ў беларускай літаратуры. Там, між ін-

(Заканчэньне на 3 балоне)

# Весткі з шырокага сьвету

**Прыгаворы сьмерці ў Праскім працэсе.** Вялікі Праскі паказовы працэс супраць 14-ёх вядучых чэхаславацкіх камуністых, пасьля шасьцідзённага трываньня, закончыўся 27 лістапада сёлета прыгаворам кары сьмерці для 11-ёх абвінавачаных на чале із былым генэральным сакратаром чэскай камуністычнай партыі Рудольфам Сланскім і былым міністрам замежных справаў Уладзімерам Клемэнцісам. Тры астальныя абвінавачаныя засуджаныя на кару дажыцьцёвага ўвязьненьня. Усе засуджаныя былі абвінавачаныя ў зрадзе бацькаўшчыны і ў змове супраць партыі й Савецкага Саюзу, шпіянажы й сабатажы, у «цітаізьме й трацкізьме», у сыянізьме й нацыяналізьме. Той факт, што сярод засуджаных бальшыня ёсьць жыдоў, гаворыць за тым, што ў сатэлітных дзяржавах распачаўся войстры антысэміцкі курс. Апінія Захаду ўважае, што запраўднай мэтай працэсу было знайсьці ахвяраў, на якіх можна было-б зьвярнуць віну за гаспадарскі хаос у Чэхаславаччыне.

**Цяпер чарга на Польшчу.** Варшаўская камуністычная газэта «Трыбуна Люду» выступіла 26 лістапада з абвінавачаньнем супраць арыштаванага цяпер былага віцэ-прэм'ера Польшчы Гамулкі, што ён «меў вызначанае ў Польшчы тое самае заданьне, што Сланскі ў Чэхаславаччыне, Райк у Мадзяршчыне і Костаў у Баўгарыі». Гэта ўважаецца за паказьнік, што Гамулка й рад іншых польскіх камуністых хутка таксама засядуць на лаве абвінавачаных.

**Перад вырашальным боем у Індакітаі.** Вайна ў Індакітаі дасягнула крытычнай фазы для французаў. Пасьля здабыцьця камуністымі сільнага французкага апорнага пункту Сонгла ў французскіх руках астаецца толькі адзін апорны пункт важнага значэньня — Назам. У галоўнай гасподзе французскіх збройных сілаў гэты пункт называюць «індакітайскім Вэрдэнам», на якім мусяць канчальна заламацца наступальныя акцыі ветмінцаў. Пад Назам ужо падходзіць з усіх бакоў каля 20.000 камуністычных паўстанцаў зь Ветміну з мэтаю ягонага здабыцьця і ачышчэньня сабе дарогі для маршу ў правінцыю Таі. Агульна ўважаецца, што хутка разыграецца генэральны бой за Назам, які будзе мець вырашальнае значэньне.

**Савецкая зброя ў Індакітаі.** Фаховыя экспэрты амэрыканскіх міністэрстваў замежных справаў і абароны заявілі, што камуністычныя збройныя сілы ў Індакітаі атрымліваюць савецкую зброю й вайсковыя матарыялы, якія прысылаюцца ў Індакітай трансазыяцкімі шляхамі цераз Сібір і чырвоны Кітай. Французскім вайсковым аддзелам удалося захапіць у паўстанцаў 25 тонаў знарадаў савецкага паходжаньня, некалькі аўтаў горкаўскага заводу імя Молатава й іншыя вайсковыя матарыялы, выробленыя ў Савецкім Саюзе.

**Карэя перад прыездам Айзэнгаўэра.** Прыгатаваньні да адведзінаў нававыбранага прэзыдэнта ЗША Айзэнгаўэра ў Карэі, якія распачаліся ў мінулым тыдні пад асабістым наглядам галоўнакамандуючага збройнымі сіламі ЗН генэрала Клярка, прадаўжаюцца. Сільныя аддзелы паўдзённакарэйскай паліцыі й войскаў ЗН занялі становішчы ў Сэулі й вакол Сэуля з мэтаю ўтрыманьня спакою й парадку падчас адведзінаў. Ня гледзячы на тое, што дакладны тэрмін прыбыцьця сюды Айзэнгаўэра яшчэ ня ведамы, на вуліцах Сэулю і на паасобных дамох віднеюцца ўжо многія транспарэнты з прывітаньнямі для высокага гасьця.

**Паўдзённакарэйская армія здала свой эгзамен.** Камандуючы 8-ай амэрыканскай арміяй у Карэі генэрал ван Фліт у вадным газэтным артыкуле падаў да ведама, што 60% усяго, на 250 клм. даўжыні, фронту утрымліваюць выключна войскі Паўдзённай Карэі, тады, калі амэрыканскія жаўнеры трымаюць 25% усяго фронту, а астальных 15% войскі іншых заходніх дзяржаваў — сяброў ЗН. Ён сьцьвердзіў, што паўдзённакарэйскія жаўнеры зьяўляюцца дасканалымі і ў наземных баёх перавышаюць амэрыканцаў.

**Карэйскі білянс.** Паводля паведамленьня міністэрства абароны ЗША карэйская вайна каштуе Амэрыцы каля 5 мільярдаў даляраў у год, тады, калі ўвесь амэрыканскі ваенны бюджэт зьяўляецца амаль у дзесяць разоў большым. Амэрыканскія страты ў Карэі выносяць дагэтуль 107.000 раненых і прапаўшых бязь вестак і роўна 22.000 забітых.

**Султан Марока дамагаецца поўнай незалежнасьці.** У сваей вялікай трановай прамове, сказанай з нагоды 25-лецьця ўступленьня на трон, султан Марока Сідзі Могамэд выступіў з дамаганьнем надаць для Марока поўную незалежнасьць. Ён заявіў, што жаданьне мараканскага народу самавызначыцца ў ніякім выпадку, пры добрай волі, не адаб'ецца на францускa-мараканскай прыязьні.

**Праграма новага прэм'ера Іраку.** Новы прэм'ер-міністар Іраку, генэрал Нур Альдзін Магмуд, пасьля зламаньня нацыяналістычных заварушэньняў у Багдадзе, асьветчыў цераз радыё, што ягоным галоўным заданьнем зьяўляецца завесьці парадак і спакой у дзяржаве. Адначасна ён падаў да ведама палітычную праграму свайго ўраду, што складаецца з наступных пунктаў: 1. Абніжэньне падатковых цяжараў, 2. Бясплатнае школьнае навучаньне, 3. Паднясьце гаспадарскае ўзроўні краіны, 4. Узмацненьне й мадэрнізацыя арміі, 5. Судовае пакараньне вінаватых за апошнія крывавыя заварушэньні, 6. Ліквідацыя карупцыі, 7. Паляпшэньне сацыяльнага забясьпечаньня й апекі, 8. Стварэньне камісыі із спэцыялістых у галіне права й адміністрацыі дзеля прыгатаўленьня праектаў далейшых законаў.

**Змаганьне з тэрарыстычнай арганізацыяй Маў-Маў.** Брытанскі міністар для справаў калёніяў Олівэр Літэльтон асьветчыў 25 лістапада ў ніжняй палаце, што палажэньне ў брытанскай калёніі Кэніі ў Афрыцы, якая ўжо некалькі тыдняў знаходзіцца пад цяжарам тэрарыстычнай дзейнасьці тайнай арганізацыі Маў-Маў, зьяўляецца апошнім часам такім, што дае падставы для паважнага занепакаеньня. Ён зазначыў, што ўрад Кэніі ў бліжэйшым часе мусіць лічыцца з паважнымі труднасьцямі. У сталіцы калёніі Найробі 25 лістапада былі абвешчаныя новыя, далёка ідучыя, паўнамоцтвы для ўладаў Кэніі з мэтаю змаганьня з тэрарыстымі. Гэтыя новыя распараджэньні маюць на мэце скарачэньне нармальнай працэдуры пры накладаньні на нэграў зборных караў і дазваляюць шыбчэйшае рэалізаваньне гэтых караў.

**Сіла амэрыканскага ваеннага флёту.** Амэрыканскія морскія збройныя сілы маюць найвялікшы флёт, якога перад гэтым у мірныя часы ня мела ніводная дзяржава сьвету. Ён зьяўляецца такім вялікім, як усе іншыя флёты сьвету ўзятыя разам. Гэты флёт складаецца з наступных адзінак: 100 авіяносцаў, 15 лінейных караблёў, 75 крэйсэраў, 350 зьнішчальнікаў, 270 фрэгатаў і зьнішчальнікаў, ужываных для канвояў, 200 падводных лодак, 220 закладальнікаў мінаў і мінашукальнікаў, 150 разьведвальных караблёў і больш як 3.500 іншых караблёў. Савецкі Саюз мае толькі тры лінейныя караблі і 17 крэйсараў. Затое астаецца й надалей перавага Савецкага Саюзу ў падводных лодках.

**Памёр Бэнэдэтто Крочэ.** На 86 годзе жыцьця памёр 20 лістапада ў Нэаполі вялікі італьянскі філёзаф і тэарэтык эстэтыкі літаратуры сьветавай славы Бэнэдэтто Крочэ. Бэнэдэтто Крочэ, хаця сам не здабыў ніводнага акадэміцкага тытулу, зьяўляўся ганаровым доктарам найвыдатнейшых унівэрсытэтаў многіх краінаў сьвету. Як праціўнік фашызму, падчас другой сусьветнай вайны ён быў інтэрнаваны ў лягеры ў Торонто, адкуль яго вызвалілі альянты.

**Брытанская сталёвая індустрыя ўзноў у прыватных руках.** Унесены ў парлямант кансэрватыстымі праект закону аб звароце ў прыватныя рукі знацыяналізаванай папярэднім ляйбурыстаўскім урадам сталёвай і зялезнай індустрыі быў прыняты ў другім чытаньні 305 супраць 269 галасоў парляманту. Вынік галасаваньня быў для абедзьвюх партыяў неспадзеўкаю, бо кансэрватыстыя маюць у парляманце бальшыню толькі на 16 дэпутатаў. Значыцца за новым законам галасавала 21 сацыялістых.

## Ад Выдавецтва «Бацькаўшчыны»

**«Бацькаўшчына» знаходзіцца ў цяжкіх матарыяльных умовах і далейшае ейнае існаваньне зьяўляецца сур'ёзна загрожаным. Нашыя надзеі, пакладаныя на падпішчыкаў, далёка не апраўдаліся, бо шмат ёсьць такіх, што аплачваюць належнасьць за газэту вельмі нерэгулярна й няпоўна, а некаторыя стараюцца мець яе зусім задарма, ня гледзячы на тое, што іхнае матарыяльнае палажэньне дазваляе за яе плаціць. А тымчасам эвэнтуальнасьць спыненьня выдаваньня «Бацькаўшчыны» была-б вялікім ударам для нашай нацыянальна-вызвольнай справы. Гэта бясспрэчна разумее кажны сьвядомы і ідэйны беларус. Але мала разумець гэта, а трэба проціўдзеіць, каб «Бацькаўшчына» не памерла. Калі-б усе тыя, што атрымліваюць і чытаюць «Бацькаўшчыну», поўна й рэгулярна аплачвалі за яе належнасьць, існаваньне й далейшае праспэраваньне газэты было-б забясьпечаным.**

**Таму зьвяртаемся ды ўсіх нашых чытачоў з гарачай просьбай — поўнасьцю ўрэгуляваць да Новага 1953 году ўсю залегласьць за газэту й аплаціць падпіску за 1953 год наперад. Дасюлешніх падпішчыкаў «Бацькаўшчыны» просім правесьці кажнаму ў сваей мясцовасьці акцыю папулярызацыі й пашырэньня нашае газэты з мэтаю прыдбаньня новых падпішчыкаў. Адначасна зазначаем, што ўсім тым, якія да Новага Году ня ўрэгулююць залегласьці за «Бацькаўшчыну», й не аплацяць падпіскі наперад, далейшая высылка газэты, пачынаючы ад 1 студзеня 1953 году, будзе неадхільна спыненая. Нашых Паважаных Прадстаўнікоў ува ўсіх краінах паза Нямеччынай гэтым просім абавязкава спыніць высылку газэты ад 1 студзеня 1953 году ўсім тым, якія ня выканаюць вышэй сказанага, а лішнія, заашчаджаныя такім спосабам, эгзэмпляры разаслаць у якасьці пробных нумароў тым беларусам, якія дагэтуль «Бацькаўшчыны» не атрымлівалі.**

**Грамадзяне Беларусы! Не дапусьцеце да таго, каб асталіся бяз роднага друкаванага слова!**

**Выдавецтва «Бацькаўшчыны»**

